# Беларускі Шлях

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:
Серпухоуская вул. д. № 12

Рэдакцыя адчынена ад 1 да 2 гадз. пасьля поудня.
Адміністрацыя—зрана ад 10 да 2 гадз. У вечары ад 5 да 7 гадз.
Рэдакцыя пакідае за сабой права папрауляць перасыланые рукапісы і карэспондэнцыі.

Цана асобн. нум. 15 К.

Падпіска: з дастаукай да дому у Мінску на 1 месяц 3 рублі.
Цана абвестак: за верш пэтыту на 1-й стран. 1 руб. на апошняй—50 кап.

Штодзенная грамадзка-палітычная газэта.

№ 2. Мінск Панядзелак 25 сакавіка 1918 г. Год I.


**Выдавецтва газэты „Беларускі Шлях“ гр. П. Алексюком пярэдано выдавецкаму т-ву „Заранка“ у Мінску. Рэдактарам з 2 нумэру становіцца гр. А. Прушынскі, пры бліжэйшым учасьці тых самых супрацоунікоу.**

*Беларускае Выдавецкае Т-во „Заранка“ у Мінску,*

—

**У з вязну с прынятыми на сябе новымі ябавязками у беларускай культурнай і палітычнай працы, рэдактарство газэты „Беларускі Шлях“ пераходзе да грамадз. А. Прушынскаго. Кірунак газэты астаецца той самы, які абвешчаны быу у № I.**

*П. Алексюк.*

---

## *Мінск 25/III.*

Старае самодзержавіе улезло у вайну. Вайна выказала банкротства усей сыстэмы. Шэрые гэроі засцілалі зямлю трупамі; здрада, прэдацельства, «глупость или преступленье»—скрозь вылезалі, як шыла з мешка. Ахвяры крывавые народу, як бы былі для каго то чортавым жартам, спосабам зрабіць карьеру, хапнуць грошы. Цара і «верхнікоу» ставілі прычынай бяды і нішчасьлівай вайны, каторай ні было відаць канца. Іх скінулі досыць лёгка, як нецатрэбны дадатак. За міністэрства кн. Львова ішчэ расійская дзержаўнасць і імпэрыалізм мелі надзею, што вайну можна ішчэ выйграць і ізноў будзе вялікая свабодная Расея. Народ ад свабоды, каторая так неспадзевана дасталася яму у агромнай прапорцыі, спачатку ішчэ помніў аб абавязку да дзержавы і хацеу як найскарэй атчапіцца ад мук вайны спосабам пабеды.

Тым часам энэргія выкарыстаць свабоду расла ні «па дням, а па часам». Старые абіды, ваенная жалезная рука, неудалая вайна, векавые думкі аб зямлі і волі,—усё гэта бухнула як вулкан.

Народные цёмные масы, безпраўные, заціснутые—былі проста аглушаны. С пекла—проста у рай.

Але скарыстаць з гэтаго прасветлага раю перашкаджаець вайна.

Альбо пабеда—і тагды ў рай, альбо мір—і тагды райскае жыцце.

На што мне зямля і воля, калі мяне забьюць, сказаў Керэнскому салдат; але так гаварыла уся армія!

Мілюкоў зляцеў, бо народ думау, што ён пярэшкаджае спакою. Керэнскі зрабіўся «глаўнаўгаварываюшчым». Ave Caesar, morituri te salutant, маглі толькі крычаць рымскіе легіоны, гдзе была сьмерць за непослух. Армія ужо развалілася бяз дысцыпліны, пачала мітынгаваць, каб знайсці хто гэта не даець рабіць мір.

Хто?

Хітра скручэные прычыня вайны, международная канкурэнція, рынкі для прамышленнасці, пярэпраізводства адных, як Гэрманія, адсталасць другіх с лежачымі натуральнымі багацтвамі, як Расея.

З гэтай усей біблії вайны народ цёмны злавіў вухам толькі адно слова: гэта буржуй робіць вайну, мучыць людзей.

Буржуй!

Цягнець вайну ён, а значыць ні пушчая ў рай, гдзе хлеб, уся зямля і ўся свабода народу.

Далой буржуёў у варатнічкох, далой інтэлігентау!

Знайшліся і фанатыкі, і утапісты—як Ленін і проста жулікі, дэмагогі, каторых мітынг узнасіў на высату уласці з марноты.

Далой буржуёў: уся уласьць саветам, яны зробяць мір.

Зрабілася ўласць вуліцы, салдацкаго бота.

Па своему—народ і вуліца былі лёгічны. Калі «вуліца» і выкідывала якое «каленца» дзікае, то гэта было рэзультатам цемнаты.

Вайна спынілася!

Німа вайны!

Пайшла ўжо вайна за ўласць велікарасійскаго бальшэвіцкаго цэнтралізму..

Вяршынка самадзержаўя звалілася, але самадзержаўная маса асталася.

«Савецкая ўласць» пярэняла с лёгкасцю ўсе фасоны самадзержавія, і народ іх прыняў, як натуральнае і прыроднае.

Ратуючыся ад анархіі і развалу, акраіны з націанальным жывучым інстынктам, Украіна, Беларусь, Дон, Эстонія—стараліся аддзяліцца для свайго збаўлення ад гніючай цэлай Імпэрыі...

Беларусі усё такі рэвалюцыя прынесла, парваўшы ланцугі рабства, вялікую карысьць: яна выгатавала у сваім катле ўсю гніль старога парадку, яна прабудзіла народы ад умысловаго сну, адкрыла народу неаб'ятные пэрспэктывы соцыальных і палітычных праблемаў. Вялізарныя пробы самаго народу рашыць у адзін мамэнт і сваім розумам самыя цяжкія праблемы жыцця ня могуць быць толькі высмеяны і заціснуты. Ім трэба даць толькі правільны ход, каб творчая энэргія знайшла дарогу. Вайна і рэвалюцыя шмат збурыла, але разсеяла і насеньня вялікай творчасці. Die Lust der Zerstörung ist schaffende Lust.

---

## Пасьля вайны.

**Адбудаванне збурэных хат.**

Збурэна вайной вясковых хат каля 200 тысяч, а з мястэчкамі і гарадамі ешчэ больш. Есць брашура--выданьне «Сахі» № 5 «Будова», напісаў А. Вілецкі. Гэта пачатак кнігі аб будове,—вайна абарвала гэту працу. Тут акуратна падлічана сколькі матэр'ялу і грошэй пайшло на будову сядзібы сярэдняго беларускаго селяніна.

Хата, гумно, пуня, хлеў, сьвіран, паветка—разам 2210 р. старымі цэнамі. Цэны гэтыя цяпер нічога не гаваруць, але з «Будовы» можна бачыць сколькі пайшло пнёў, цвякоў, цэглы, вапны, гонтаў і т. д.

Гэта клясычнае і дэтальнае апісанне сярэдней сядзібы.

**Хаурусные хаты.**

Вайна кончыцца, мільёны бежанцоў прыдуць на свої пажарышчы. Трэба зрабіць якую небудзь хату. Лясоў—трэба лічыць—бадай мала засталося. А трэба, каб была якая страха над пакутнай бежанскай галавой. Каб кожны сам асобна зрабіў якую зямлянку, то трэба трохі менш дрэва, як на хату.

Одно відаць з гэтаго, як і з засевам зямлі (глядзі № 1 Бел. Шл.) хаурусам па 3—4 сямьі,—з вясны, калі увесь час пойдзе на засевы і агароды, трэба жыць у палатках, бараках. Ад вайны і ад фронту расійскаго і гэрманскаго можна назбіраць якіх 50—100 тысяч палатак і трэба зрабіць і кухні, і харчы, як інтэндантскім спосабам.

**Дрэва з акопау.**

Гібель дрэва ўсажэна ў акопы. 600 вёрст фронту на Беларусі акопаў у дзесяць радоў. Абшыўка акопаў, казыркі, землянкі, бліндажы, лісьі норы—дрэва бяз конца. Часць дрэва струхлела, але яна пойдзе на выпалку цэглы.

**Платы з дроту.**

Цэлые мільёны пудоў калючаго дроту наблытана на фронце. Гэты дрот павінны пярэдаць бежанцом, сабраўшы і калы: бяз плоту ня можэ абыйсціся гаспадарка.

**Праца безработным.**

І цяпер ужо астаноўка фабрык, каторыя працавалі на вайну і разруха эканамічная, выкінулі мільёны людзей на брук і голад.

Трэба зараз жэ арганізаваць работы па разборцы фронту і сыстэматызацыі матэрыалу.

Трэба парабіць лесапільні, хаця б с круглымі піламі, каб усе што можна пілаваць на дошкі, палавінкі, латы, брускі дзеля вокнаў, налічнікі: гэта многа аблегчае будову і транспарт.

*(Працяг будзе).*

---

## Скрыпты шовініста.

Адкуль знянацку ўзялося ў бальшэвікоў гэтакае міралюбства? Цэнтральны выкан. камітэт «совѣтов» у Петраградзі значнай большасьцю прыймае мірны дагавор з Гэрманіяй, «савет народных камісараў» праз камісара нацыянальных справаў аб'яуляя аб запыненню ніпрыязьні між народамі(?) Расіі і Украіны, зноў-жа «Смольняне» надпісалі трактат з рэвалюцыйным урадам Фінляндзіі, на моцы якога абавязаліся ачысьціць Фінляндзію ад свайго войска (а значыць і «чырвонай» арміі?);—што гэто значыць?

Зрабіўся буржуям «таварыш» Крыленка? Ці узнёсся жывым у рай «нарком» чырвонай арміі Дыбенка? Ці пачырванелі ў Фінляндзіі белагвардзейцы? Ці можа соцыялізіравалі, раздзялілі усім па кавалачку: Грушэўскі—свой розум, Вінічэнко—артызм і пано-шаную, але ішчэ добрую марынарку, «буржуазная украінская Рада» ў якой засядало каля 700 буржуяў з украінскіх с.-р. і с.-д.—сваю «буржуазнасьць»?

Ой не! Жывець «пролетарый» Крыленка, ходзіць па зямлі «нарком» Дыбенка, бялеюць фінскіе гвардзейцы, трымаюць пры сабе сваю буржуазнасьць украінскія с.-р. і с.-д. Дык адкуль жа цуд гэты з бальшэвікамі? І як раз пасьля таго, як дэмагогі адабралі у гогаў Новачаркаск?

А для цуду патрэбна было, каб з'явіліся з заходу і ўсходу мільёны анёлаў згоды, і прапісалі бальшавіком артыкулы правілаў жыцця «павэдлуг Боскаго і люцкіх законаў».

Часамі скажыш, як тоя агароднае пужало у Высьпянскаго Wesell'ю: «меў ты, хаме, волі рог!»

**А. Новадворскі.**

---

## Весткі з Расіі.

ПЕЦЕРБУРГ. [Рэйтер 20 г. м.]. Камісар марскіх справаў Дыбенка арыштаваны за ні атдачу патрэбных распараджэнняў для абароны Нарвы.

ПЕЦЕРБУРГ. [Рэйт. 20 г. м.]. Савецкія ўласьці пагадзіліся з урадам Кітаю у справе урэгуліровання пытання аб рубяжох.

ПЕЦЕРБУРГ. [22 г. м. Э. К.] Даносяць з Масквы, што савецкі урад пастановіў налажыць прымусовую пажычку. Фінансавай камісіі даручэна апрацаваць праэкт.

ПЕЦЕРБУРГ. [22 г. м. Э. К.). Маскоўскі Патрыярх Ціхан с прычыны бальшэвіцкаго ўціску на духавенства

